№ 3 сакавік 2013 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

**Мова! Як сонца маё беларускае,**
**Ты свецішся словам кожным.**
*Яўгенія Янішчыц*

## *У НУМАРЫ:*















# НАШЫ НАВІНЫ

**14 сакавіка на пасяджэнні раённай суполкі ТБМ сябры арганізацыі ўшанавалі памяць збіральніка матэрыялаў пра Пастаўшчыну, аўтара кнігі пра вёску Міхнічы, яе ўраджэнца, польскага навукоўца Генрыка Жаброўскага. З паведамленнем пра яго жыццёвы лёс і краязнаўчую спадчыну выступіў Ігар Пракаповіч, які ў свой час кантактаваў з ім праз ліставанне. Пасяджэнне было прымеркавана да 90-годдзя з дня нараджэння даследчыка.**




***

**21 сакавіка сябры раённай арганізацыі ТБМ правялі прагляд і абмеркаванне дакументальнага фільма пра станаўленне і развіццё беларускай рок-музыкі. Падрыхтавала мерапрыемства Людміла Сяменас.**

***

**22 сакавіка сябры ТБМ мелі сустрэчу з начальнікам па справах моладзі пастаўскага райвыканкама Наталляй Субко па пытаннях правядзення конкурсу беларускамоўных ды-джэяў і конкурсу выканаўцаў беларускамоўных песень. Дамовіліся аб сумесным правядзенні мерапрыемства ў другой палове красавіка.**

***

**23 сакавіка некалькі сяброў ТБМ удзельнічала ў аўтавандроўцы да месца пахавання паўстанцаў 1863 года ў вёсцы Свірдуны Пастаўскага раёна. Праводзілі гэту акцыю грамадскія арганізацыі Віцебскай вобласці.**

***

**25 сакавіка ўдзельнікі пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ зладзілі сяброўскую вечарыну, адзначыўшы вялікае беларускае свята – Дзень Волі.**

***

**28 сакавіка сябры ТБМ І. Пракаповіч, В. Шышко, І. Атрахімовіч і Л. Сяменас разам з настаўнікамі і навучэнцамі мастацкай школы ўдзельнічалі ў паездцы на радзіму мастака Язэпа Драздовіча. У час вандроўкі падарожнікі наведалі музеі і выставы ў Германавічах, экскурсіі па якіх правяла вядомая рупліўца**



**беларушчыны Ада Райчонак. Таксама мелі магчымасць наведаць школьны музей і дом рамёстваў у Шаркаўшчыне.**





НОВАЯ КНІГА

**Міхал Гіль**

# УЛАНЫ, УЛАНЫ - прыгожыя дзеці...




У дзяцінстве, асабліва калі мне мінула дзесяць гадоў, летнія школьныя вакацыі любіў праводзіць у роднай цёткі (бацькавай сястры) Фаіны ў вёсцы Юнькі, што ляжыць каля Паставаў. Што прываблівала туды? Гэта, безумоўна, поўная свабода дзеянняў, рэчка, шмат сяброў-аднагодкаў, сярод якіх былі не толькі вяскоўцы, але і дзеці, якія прыехалі з розных гарадоў Беларусі на лета да бабуляў і дзядуляў. Шмат часу праводзілі ля ракі: лавілі рыбу, ракаў, будавалі ставы, каб месца, дзе купаліся, было глыбей, ездзілі на роварах па грыбы і ягады. Зрэдчас дапамагаў цётцы "сенаваць" – варочаць сена, грузіць яго на тарантас, укладваць і таптаць на гарышчы. Калі падыходзіла "кулейка" (чарга), то дапамагаў пасвіць каровы. Звычайна асноўным пастухом была адна з маіх старэйшых стрыечных сясцёр, якія тады былі студэнткамі: адна ў Мінску, другая ў Віцебску. Пасвілі часцей у Алтынцы (дарэчы, вельмі цікавы назоў цюркскага паходжання). Так называлі мясцовыя жыхары парослую вольхай і сасонкамі мясцовасць паміж Паставамі (5 гарадком) і Юнькамі (там раней быў асфальтавы завод, а зараз – гарадскі сметнік). Днём да мяне на пасту прыходзілі сябры, і сястра адпускала нас на пару гадзін схадзіць за цукеркамі ці марозівам у "ваенторгаўскую" краму ў "Кашары" – так называлі жыхары Юнек і суседніх вёсак мікрараён 5-га ваеннага гарадка, дзе стаялі ракетчыкі. Тады я не задумваўся, што азначае гэта назва і чаму гэты мікрараён так называюць. Потым, ужо пасля службы ў войску, калі пачаў цікавіцца гісторыяй, то даведаўся, што слова "кашары" ў перакладзе з польскай мовы азначае "казармы" і што там, дзе знаходзіцца ваенны гарадок ракетчыкаў, з 1935 па 1939 год былі казармы, жылыя дамы афіцэраў і палкавая стайня 23-га палка Гродзенскіх уланаў. Пазней, у 1940 годзе, у гэтых будынках размесціліся курсанты Пастаўскай авіяцыйнай школы, пасля вайны стаялі танкісты, затым – ракетчыкі.

Пры Савецкім Саюзе друкаваных крыніц пра гісторыю міжваеннай Польскай Рэчы Паспалітай, а тым больш пра гісторыю вайсковых фарміраванняў амаль не было. Цягам амаль пяцідзесяці гадоў толькі некалькі кніг малым накладам было выдадзена на тэму савецка-польскай вайны 1920 года, і то для слухачоў ваенных акадэмій і ваенных гісторыкаў, бо пра яе не вельмі любілі ўспамінаць савецкія партыйныя прапагандысты і агітатары, паколькі тую вайну ўчыстую прайгралі. У Беларусі таксама назіралася такая ж сітуацыя, хаця ў тыя часы амаль палова яе тэрыторыі ўваходзіла да 1939 года ў склад II Рэчы Паспалітай. Таксама было выдадзена толькі некалькі кніг пра "барацьбу беларускага народа і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі супраць прыгнёту польскіх паноў і буржуяў", пра цяжкую долю рабочых і сялян у панскай Польшчы і спрадвечную мару насельніцтва Заходняй Беларусі аб'яднацца з другой паловай беларусаў, якія пражывалі ў БССР, і ўвайсці ў склад Савецкага Саюза.

Толькі ў канцы 80-х, калі пачалася "перабудова і галоснасць", кніжны рынак пачаў насычацца забароненай у камуністычныя часы літаратурай. З'явіліся кнігі пра Пілсудскага, Тухачэўскага, Андэрса і савецка-польскую вайну 1920 года, але не вельмі шмат. У незалежнай Беларусі, хоць прамінула ўжо дваццаць гадоў, тэмай



“знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе II Рэчы Паспалітай” мала хто цікавіцца з сучасных гісторыкаў, іх можна літаральна пералічыць па пальцах. Толькі ў апошнія гады выйшла на гэту тэму некалькі даследаванняў на беларускай мове наступных аўтараў: Алега Латышонка, Юрыя Туронка, Яўгена Мірановіча, Крысціны Гамулкі, Томаша Главінскага (усе з Польшчы), Арсеня Ліса, Андрэя Боркі, Уладзіміра Ляхоўскага, Яна Шумскага, Сяргея Токця, Андрэя Чарнякевіча, Андрэя Пачобута і Эдуарда Мазько, дзе большая частка аўтараў – гарадзенскія гісторыкі.

Іншая сітуацыя назіраецца ў Польшчы. Там пасля падзення камуністычнай сістэмы ў гістарычнай навуцы перасталі існаваць забароненыя тэмы, з’явіўся вольны доступ да архіваў, і за апошнія два дзесяцігоддзі пабачылі свет некалькі соцень кніг з даследаваннямі міжваеннага перыяду (1920 – 1939 гг.) гісторыі Польшчы, у тым ліку і гісторыі Войска Польскага. Трэба адзначыць, што яшчэ ў канцы 20-х – пачатку 30-х гадоў пад эгідай бюро вайсковай гісторыі Міністэрства вайсковых спраў Рэчы Паспалітай была заснавана кніжная серыя “Нарысы ваеннай гісторыі польскіх палкоў 1918 – 1920 гг.”, якая складалася з 156 невялікіх кніг, у кожнай з якіх аўтар – афіцэр таго палка ці іншага падраздзялення, пра якое напісана кніга – распавядаў пра гісторыю заснавання і баявы шлях палка, традыцыі, камандаванне, пра загінуўшых падчас вайны жаўнераў і афіцэраў, узнагароды і найважнейшыя палкавыя трафеі. Так, у 1930 годзе ў Варшаве пабачыла свет кніга з гэтай серыі “23-і полк Гродзенскіх уланаў”, тэкст якой апрацаваў маёр Францішак Віктар Карассек, поўны пераклад якой я прапаную чытачам.

Першы матэрыял пра 23-і полк я прачытаў у Інтэрнэце, на сайце WESTKI.INFO, аўтарам якога быў наш зямляк, які нарадзіўся ў Паставах, а зараз жыве ў Даўгаўпілсе. Затым пачаў шукаць інфармацыю на польскіх сайтах, дзе і ўдалося знайсці ўзгаданую кнігу. Прачытаўшы яе, вырашыў перакласці на беларускую мову і выдаць, паколькі ў палках, якія фарміраваліся на тэрыторыі Літвы і Беларусі, асноўную масу шараговых жаўнераў і падафіцэраў складалі мясцовыя жыхары: беларусы, палякі і татары, якія ў асноўным уступалі ў гэтыя фарміраванні добраахвотна, бо ўжо былі крыху паспрабаваўшы смаку бальшавіцкай улады. І зараз яшчэ збераглося даволі многа брацкіх магіл польскіх жаўнераў на тэрыторыі нашага рэгіёна: у Паставах, Дунілавічах, Лынтупах, Крулеўшчыне, Глыбокім, Германавічах, Кабыльніку, Куранцы, Браславе і іншых мясцінах. Значная колькасць магіл разбурана ў савецкія часы.

Шмат хто з нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў нарадзіўся і быў грамадзянінам адроджанай дзяржавы II Рэчы Паспалітай Польскай, прысягаў на вернасць ёй і ў маладыя гады служыў у Войску Польскім. Гэта наша гісторыя, і яе не трэба забываць.

Для паўнаты адлюстравання тагачаснай сітуацыі ў вайсковай справе і задавальнення чытацкай зацікаўленнасці, акрамя гісторыі палка, у кнізе змешчаны невялікія матэрыялы па гісторыі баявой конніцы, развіцці кавалерыі ў II Рэчы Паспалітай, яе ўдзелу ў апошняй вайне, а таксама пра ўланаў. Гэта інфармацыя ўзята мной з некаторых сайтаў Інтэрнэта, а таксама з некалькіх друкаваных крыніц, назвы і аўтары якіх пададзеныя ў канцы кнігі. Кнігу назваў “Уланы, уланы – прыгожыя дзеці”. Гэта словы прыпеву вельмі папулярнай у міжваенны перыяд польскай патрыятычнай песні. Тэкст гэтай песні таксама змешчаны ў канцы кнігі.

Наступнае выданне, над якім зараз працую, будзе прысвечана дзейнасці партызанаў Арміі Краёвай у нашым рэгіёне. У ім таксама будуць разглядацца малавядомыя старонкі гісторыі, звязаныя з рэпрэсіямі і вывазам польскіх грамадзянаў у 1940–1941 гадах і іх рэпатрыяцыі ў пасляваенныя 40–50-я гады.

*Настаўнік гісторыі Гуцкай школы, вядомы мясцовы краязнаўца Мікалай Арэх падрыхтаваў да друку невялікую кнігу "Вёсачкі над Заражанкай", у якой распавядаецца пра чатыры паселішчы, што ляжаць на берагах ракі Галбяіцы: Манеўшчына, Васілеўшчына, Харкі і Кейзікі. Увазе чытачоў прапануецца ўрывак з гэтай кнігі.*



**Мікалай Арэх**

## ПРА ВЁСКУ ХАРКІ

Вёска Харкі знаходзіцца ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, за 4 км на паўночны ўсход ад гарадскога пасёлка Варапаева, за 34 кіламетры на захад ад Пастаў. На захад недалёка ад вёскі цячэ рака Заражанка.

Па словах Лысёнак Серафімы Іванаўны, па дарозе з Харак да Манеўшчыны (зараз дарогі няма – разарана) ёсць гарадзішча. Месца так і называецца. Тут знаходзілі камяні цікавай формы. Уніз ад вёскі – Кавалёва балота, у якім яшчэ ў 70-я гады былі топкія месцы. Праз яго працякае ручай. Балота раней, напэўна, было возерам. Памеры Кавалёва балота – прыблізна 700 на 50 – 150 метраў. На поўдзень ад балота знаходзіцца возера Маскалева, якое жыхары вёсак Манеўшчына, Харкі, Васілеўшчына завуць Азерца. Паблізу ад Гарадзішча, у бок вёскі Макаршчына, ёсць восем курганоў-валатовак. Памеры найбольшага – прыблізна 5 на 3 метры, вышыня каля 1,5 метра. Некаторыя курганы раскопвалі і знаходзілі там зброю. Вёў раскопкі разам з дзецьмі і харкаўскі настаўнік польскай школы Анкудовіч Зянон. Прымаў удзел у гэтай справе і Воронька Мікалай Антонавіч ( 1923 г.н.), але ён не памятае, каб там што-небудзь знаходзілі. Ёсць звесткі, што каля курганоў у сярэдзіне 30-х гадоў праходзіў сход мясцовай ячэйкі КПЗБ. Былі выстаўлены вартавыя – 16-17-гадовыя хлопцы. Аднак польскія ўлады высачылі і арыштавалі ўдзельнікаў сходу. Іх спачатку завезлі ў Беразвечча, адкуль потым няпоўнагадовых адпусцілі дамоў, а дарослых адправілі ў Бярозу- Картузскую.



Бліжэй да Макаршчыны быў вялікі курган, як казалі відавочцы, пад столь хаты. Вакол яго знаходзілася ралля, і людзі, апрацоўваючы зямлю, кожны год адворвалі ад кургана зямлю, павялічваючы свае надзелы. Потым гэту працу давяршыў бульдозер. Тады там знайшлі костку і нейкую прыладу. Зверху над гэтымі знаходкамі былі вугалі, абкладзеныя камянямі. Зараз на гэтым месцы роўнае поле. Ёсць звесткі пра валатоўкі ў лесе пад вёскамі Белае, Кейзікі, пры возеры Белым. Пра гэта ў 1972 годзе расказаў вяскоўцам Красоўскі Яўхім. Гэты чалавек працаваў настаўнікам у Харках у часы польскай і нямецкай акупацыі, за што яму пасля вайны далі 25 год зняволення. Яго брат быў інспектарам у раёне. Красоўскі Яўхім казаў, што валатоўкі былі і на Агуркове, што каля Манеўшчыны. Яшчэ вялікую цікаўнасць выклікаюць звесткі пра знаходку мужчынамі на палетках каля Макаршчыны і Казароўшчыны дзвюх каменных сякер, добра апрацаваных, з адтулінай для ручкі, дыяметрам каля 3 см. Знойдзены яны былі ў даваенны час ці адразу пасля вайны.

У 1873 годзе Харкі знаходзіліся ў

складзе Пастаўскай воласці Дзісненскага павета Віленскай губерні. Вёска належала Тызенгаўзам і мела 29 душ. У 1909 годзе ў Харках было 6 двароў, 15 сямей, пражывала 105 чалавек.

Мясцовыя жыхары тлумачаць паходжанне назвы вёскі ад рускага слова "хорёк", быццам гэтых жывёл тут было шмат. Гэта, зразумела, вельмі спрэчна, але ёсць такая версія.

Да гэтага часу захавалася прыгожая алея старых дубоў. У 1936 годзе памёр 107-гадовы мужчына, які казаў, што ў час яго дзяцінства дубы былі ўжо вялікія. У вёсцы стаіць некалькіх старых хат, пабудаваных яшчэ да Першай сусветнай вайны. Адна з іх, зрубленая на нямецкі вугал, выглядае, быццам ёй толькі некалькі дзясяткаў год. Варонька расказваў, што раней умелі будаваць, выбіраючы лес так, каб адлегласць паміж кольцамі дрэва была мінімальная. Найстарэйшую хату, праваруч, як ісці на Манеўшчыну (стогадовых хат у вёсцы на 2010 год было чатыры), збудавалі толькі з дапамогай адной сякеры, бо піл тады ў вёсцы не было. Спачатку усяго хат было 6, як і надзелаў зямлі.

У XIX стагоддзі адзін чалавек з акна (гэта значыць з хаты) хадзіў на працу ў Двор. Пасля адмены прыгону, па словах Вароньki, колькасць хат пачала павялічвацца.

Падзеі Першай сусветнай вайны не мінулі вёску. Восенню 1915 года тут пачалі капаць акопы запасной лініі абароны (асноўная праходзіла пад Паставамі). Для гэтай работы пад аховай салдат прывялі палонных аўстрыйцаў. Іх лагер быў размешчаны на месцы сучаснай зернесушылкі каля вёскі Кейзікі. Адсялення мясцовых жыхароў не было. Іх таксама прыцягнулі да падрыхтоўкі абарончых умацаванняў. За капанне акопаў жыхарам давалі золата, пазней - цукар, шмат мукі, дарма кармілі на салдацкай кухні – бяры і еш колькі хочаш. Некаторыя нават не хацелі апрацоўваць свае палі. Выкапаныя бліндажы звязваліся акопамі. Вядома, што адзін быў у пачатку вёскі, другі – на полі на поўнач ад вёскі, трэці – у сасонніку. Бліндажы мелі столь у 5 накатаў бярвенняў з праслойкамі зямлі. Унутры былі лаўкі, нары.

Будаўнічыя работы вяліся больш за два гады, аж да рэвалюцыі. Пазней гэтыя бліндажы мясцовыя жыхары разабралі на хлявы і іншыя збудаванні. Але некаторыя захаваліся да Вялікай Айчыннай вайны, вясковыя дзеці гулялі ў іх. Засталося яшчэ шмат калючага дроту. Спачатку вяскоўцы былі рады, калі яго забіралі з палёў, а потым, калі дроту стала мала, ужо прадавалі за злотыя. Некаторыя салдаты той вайны засталіся жыць у суседніх вёсках, у прыватнасці, Князь, які быў родам з Любані, Шафрановіч з Літвы і яшчэ некалькі чалавек. Часта яны любілі збірацца і ўспамінаць тыя часы.

Яшчэ да рэвалюцыі ў Харках адкрылася школа. Спачатку настаўнік хадзіў па дварах, потым быў пабудаваны вялікі будынак школы ў форме літары Т.

З 1921 года вёска ўваходзіла ў Віленскае ваяводства Польшчы. У той час у школе было 5 класаў, а ў 6 і 7 клас трэба было хадзіць у Варапаева, таксама, як і вучням з вёскі Голбія. Вучылася ў ёй 140-150 чалавек. Хадзілі дзеці з Манеўшчыны, Васілеўшчыны, Кейзікаў, Харак, Казароўшчыны, Лапачонак, Разлуцішак (1 вучань). У 1936 годзе школу перанеслі ў вёску Макаршчына. У ёй, акрамя Анкудовіча Зянона, працавала і яго будучая жонка Гелена. Пасля вяселля яны жылі на кватэры ў Харках у Гаруса. Дзяцей яны вучылі толькі ўдвух. Анкудовічы трымалі чалядніцу. Калі дазваляла надвор'е, настаўнікі, расклаўшы пасцілку, загаралі. Сям'я Анкудовічаў любіла таксама пакатацца на купленым імі кіяку – лёгкай фанернай лодцы, якую можна было несці ўдвух. У школе ладзілі экскурсіі. Так, напрыклад, дзеці наведалі фанерны завод у Полаве, земляробчую (па-польску рольную) школу ў Лучаі. У земляробчай школе вучылі, як карміць жывёл, каб у хлеве было суха. Нават пешшу хадзілі на возера Нарач, паспяваючы за адзін дзень вярнуцца назад. Дысцыпліну ў школе трымалі. Калі хто, напрыклад, апынуўся на вяселлі без запрашэння, то мог атрымаць кіем у лапу (у адкрытую далонь) ці стаць у вугал на калені. Пакаранні ў школе былі толькі за дысцыпліну, а не за непаспяховасць у навучанні. Вучань мог і 2 - 3 гады сядзець у адным класе, і настаўнікі за гэта не адказвалі. З Ажун раз на тыдзень у школу прыязджаў бацюшка, вучыў Закону Божаму, малітвам. Калі ў яго за год атрымліваў хтосьці "двойку", то ў другі клас не пераводзілі...

## Карнілава Наталія

Нарадзілася 30. 05. 1971 г. у в. Юнькі Пастаўскага раёна. Закончыла СШ № 2 г. Паставы, мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. Працавала настаўніцай выяўленчага мастацтва і сусветнай мастацкай культуры Пастаўскай СШ №5. Зараз - на творчай працы.

Аўтар кнігі вершаў "Радуга – вясёлка" (2005) (выд. Цэнтр БДУ). Вершы друкаваліся ў раённых і рэспубліканскіх выданнях.




*ПАМЯЦІ ПАЭТА*

*Нябёсы - прытулак паэтаў.*
*Іх Бог на зямлю пасылае*
*Адчуць горыч гэтага свету,*
*А потым зноў кліча да раю.*
*Жыццё па аголеных нервах*
*Калючымі цернямі піша*
*Радкі пра надзею і веру…*
*Даруе памылкі Ўсявышні.*
*Спазнаўшыя зменлівасць лёсу,*
*Зямной дасягнуўшыя мэты,*
*Глядзяць з абяцаных нябёсаў*
*Выбраннікі Бога- паэты.*

***

*Мая мова! Мова-песня*
*Бомамі ў палях звініць.*
*У аксамітным паднябессі*
*Птушкай можа гаманіць.*

*Яна лашчыць, расчуляе,*
*Бо салодкая, як мёд.*
*Калі святы, дык гуляе,*
*Растапіўшы смутку лёд.*

*Слоў і гукаў дзіўны водар*
*Так прыемна ў вершы віць.*
*Мая мова, маю гонар*
*Цябе ведаць і любіць.*

*Змрочная золь за акном,*
*Плачуць адлігай бярозы.*
*Ява ўяўляецца сном,*
*Сум абвалоквае розум.*

*Але кажу я сабе:*
*Смутак не будзе бясконцым.*
*Памятай: у барацьбе*
*Ёсць сэнс імкнуцца да сонца.*

*МАСТАЦТВА*

*Звіняць раяля гукі трапяткія*
*Празрыста, светла і натхненна.*
*У імгненні ўзнёслыя такія*
*Прыходзіць муза, несумненна,*
*Да мастака, каб ён старанна*
*Шукаў глыбінны сэнс жыцця*
*І здолеў у колерах шматгранна*
*Адлюстраваць свет пачуцця.*
*Мальберта музыка чароўна*
*Гучыць ізноў у яго душы,*
*І ўздымае, безумоўна,*
*Да самых велічных вяршынь.*
*А фарба аксамітам ззяе*
*У стройных рыфмах каларыту.*
*І пэнзаль палатно кранае,*
*Яго цалуючы нібыта.*
*Так нараджаецца майстэрства!*
*Мелодыі, карціны, вершы-*
*Мастацтва моцнае братэрства,*
*У якім кожны з відаў першы!*

*Мясцовыя гісторыі*



**Ігар Пракаповіч**

# РЭШТКІ КАМЕННАГА ІДАЛА

У даўнія часы старажытныя людзі пакланяліся сілам прыроды. Месцы, дзе адбываліся магічныя рытуалы, называліся капішчамі, або свяцілішчамі. Там гарэў вечны агонь і стаялі драўляныя або каменныя выявы багоў, якія называюць стодамі, або ідаламі.

Вядома, што каля вёскі Ёдаўцы раней было вялікае гарадзішча, а каля яго, напэўна, знаходзілася і капішча. Гарадзішча разбурылі параўнальна нядаўна, калі будавалі дарогу, а вось капішча знішчана, напэўна, вельмі даўно, у часы, калі хрысціянская рэлігія актыўна змагалася з паганствам. Драўляныя ідалы былі спалены, каменныя – разбіты на кавалкі або перароблены ў крыжы.

Часткі знішчаных ідалаў удалося знайсці ў ваколіцах вёскі былому настаўніку гісторыі Камайскай школы К. Пракопу. Гэта каменныя кавалкі частак галавы і нагі. Праўда, скептыкі сцвярджаюць, што знаходкі – прыродныя ўтварэнні і старажытны чалавек не меў да іх дачынення. Але ж навукоўцы зацікавіліся гэтымі рэчамі, забралі ў Акадэмію Навук на экспертызу. Пэўна, не ўсё так проста, як камусьці падаецца…





**Шыпшына**
*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*